№149 (1962)
Пятніца , 13 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +24...+26, сонечна, уначы — +15...+17, дождж; у Брэсце ўдзень — +25...+27, без ападкаў, уначы — +15...+17, дождж; у Гродне ўдзень — +24...+26, сонечна, уначы — +15...+17, навальніца; у Віцебску ўдзень — +19...+21, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +16...+18, навальніца; у Магілёве ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +14...+16, навальніца.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Лукашэнка аб'явіць рэферэндум?

Як паведамілі прэс-цэнтру Хартыі'97 з Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у бліжэйшы час будзе аб'яўлена аб правядзенні рэферэндуму па пытанні, звязаным з магчымым дазволам народа на права ўдзелу А.Лукашэнкі ў чарговых прэзідэнцкіх выбарах.

Рэферэндум плануецца правесці разам з выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, якія прызначаны на 17 кастрычніка 2004 года.

*www.charter97.org*

**АД РЭДАКЦЫІ.**

*Верыць ці не верыць гэтай інфармацыі — справа часу. Але паколькі сама праблема мае вялікую цікавасць, то не давесці яе да шырокай грамадскасці не маем права.*

## З 14 жніўня ў Беларусі пахаладае і пачнуцца дажджы

*Па словах старшыні службы гідраметэаралагічнага кантролю ДУ "Рэспубліканскі гідраметэаралагічны цэнтр"* ***Тамары Цярэшчанкі,*** *"гэта звязана з фарміраваннем цыклону ў Заходняй Еўропе, які пройдзе спачатку па Брэсцкай вобласці, а потым і па цэнтральнай частцы рэспублікі".*

Як сцвярджаюць спецыялісты, пакуль Беларусь адчувае востры недахоп ападкаў.

Сярэднясутачная тэмпература паветра складае 17—23 градусы, што крыху перавышае звычайныя паказчыкі.

*"Аднак такая сітуацыя спрыяе ўборачнай кампаніі,* — гаворыць Тамара Цярэшчанка. — *Уборка ўраджаю з'яўляецца адным з самых напружаных перыядаў у сельскагаспадарчай вытворчасці. Выспяванне зерневых ідзе нераўнамерна, асноўная іх частка адрозніваецца павышанай вільготнасцю і патрабуе апрацоўкі ў сушыльных устаноўках".*

**Вольга БЕЛАЯ.**

## БДІПЧ АБСЕ запрасілі на выбары

*12 жніўня беларускі бок накіраваў на адрас Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ запрашэнне ўзяць удзел у міжнародным назіранні за парламенцкімі выбарамі. Пра гэта на брыфінгу ў знешнепалітычным ведамстве Беларусі паведаміў прэс-сакратар МЗС* **Андрэй Савіных.**

*"Дадзенае рашэнне з усёй відавочнасцю сведчыць аб цвёрдай прыхільнасці беларускага боку да правядзення адкрытых, свабодных і дэмакратычных выбараў",* — заявіў ён.

Як зазначыў А.Савіных, прыезд назіральнікаў БДІПЧ магчымы ўжо ў пачатку верасня. Нагадаем, што парламенцкія выбары ў Беларусі прызначаны на 17 кастрычніка.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Ліцэісты прэзентуюць новы кампакт-дыск

27 жніўня ў сталічным клубе **"Бліндаж"** адбудзецца адкрыццё канцэртнага сезона **"Рок пасля вакацый"**. У рамках праграмы — прэзентацыя музычнага альбома навучэнцаў ліквідаванага Беларускага гуманітарнага ліцэя **"Веру ў цябе/Я люблю ліцэй!"**, выступ гуртоў **Zet**, **"Гарадзкія"**, рэп-музыканта **А.Памідорава**, пераможцаў фэсту "Басовішча'2004" — гурта **"Тарпач"** і іншае.

**Міла КОЛАСАВА.**

## Уладзімір Навумаў пакажа сапраўдны хакей?

13 жніўня ў Мінск прыедуць ветэраны хакея Фінляндыі.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, вечарам таго ж дня фінская каманда згуляе на арэне крытага катка парку імя М.Горкага з камандай ветэранаў хакея Беларусі "Дынама-плюс", якую выведзе на лёд кіраўнік Федэрацыі хакея Рэспублікі Беларусь, міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў.

У МУС зазначылі, што разам са спартсменамі ў Мінск прыбудуць прадстаўнікі фінскай будаўнічай кампаніі "Сканска". Яны маюць намер сустрэцца з А.Лукашэнкам і кіраўніцтвам Федэрацыі хакея Беларусі, каб абмеркаваць перспектывы ўзвядзення шматфункцыянальных, прыдатных для ўсіх гульнявых відаў спорту арэн, а таксама магчымасць удзелу ў гэтых праектах фінскіх спецыялістаў.

## Дачка з пятлёй на шыі

Пракуратурай Капыльскага раёна (Мінская вобласць) распачата крымінальная справа ў дачыненні да 36-гадовай жыхаркі Капыля, якая знаходзіцца ў адпачынку па доглядзе за дзіцем.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, гэтая жанчына 10 жніўня, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, у двары свайго дома бялізнавай вяроўкай спрабавала задушыць сваю гадавалую дачку, але была затрымана прахожымі.

Падазроная змешчана ў ізалятар часовага ўтрымання.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**СКАНДАЛ**

# Удар двума мільёнамі долараў

У нас нямала гавораць пра важнасць прыцягнення замежных інвестараў. Аднак ці ўсё робіцца для гэтага?

Фірма "ІНКО-FOOD" са стопрацэнтным польскім капіталам працуе ў свабоднай эканамічнай зоне "Брэст" з 1991 года. Яна перапрацоўвае мяса, якое паступае ў асноўным з Польшчы, і прадае прадукты не толькі ў Беларусі, але ў асноўным на экспарт. За гэты час у яе не было ніякіх праблем з мытнымі, падатковымі і іншымі органамі Беларусі.

І вось у канцы ліпеня брэсцкія мытнікі зацікавіліся сыравінай, якая захоўвалася на складзе Аблпрадуктгандлю. У пачатку жніўня справа разгледжана ў судзе Ленінскага раёна Брэста, які прыняў рашэнне аб канфіскацыі мяса на два мільёны долараў. Справа ў тым, што прадпрыемства "Інко-Food" не мае ў свабоднай зоне свайго склада, таму выкарыстоўвала вышэйназваны.

З-за гэтага ўсё і пачалося. Работнікі мытні лічаць, што фірма захоўвала сваю прадукцыю на складзе арганізацыі, якая не мае статусу рэзідэнта свабоднай эканамічнай зоны, што з'яўляецца парушэннем. Прадстаўнікі фірмы сцвярджаюць, што дзейнічалі на падставе дакументаў, якія тычацца эканамічнай свабоднай зоны. Больш таго, у свой час яны цікавіліся ў адпаведных інстанцыях наконт выкарыстання гэтага склада і ніякіх пярэчанняў не мелі.

У скандал аказаліся ўцягнутымі дыпламаты і ўрады дзвюх краін. Мы папрасілі пракаменціраваць сітуацыю саветніка Пасольства Польшчы ў Беларусі **Марэка БУЦКО**. Вось што ён сказаў:

*"Польскі бок вельмі занепакоены дзеяннямі мытных беларускіх улад, якія мы лічым неабгрунтаванымі. Мы не ведаем, адкуль пачалася атака на буйнейшага польскага інвестара ў Беларусі. Гэты факт можа сур'ёзным чынам адбіцца на далейшым эканамічным супрацоўніцтве паміж нашымі дзвюма краінамі. Мы лічым, што такія выпадкі павінны папярэдне і своечасова разглядацца на пасяджэннях сумеснай беларуска-польскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. У дадзеным выпадку, на жаль, польскім уладам цяжка было нават аператыўна выйсці на кантакт з беларускімі ўладамі".*

Рэдакцыі стала вядома, што віцэ-прэм'ер польскага ўрада Ежы Хаўснер накіраваў пісьмо віцэ-прэм'еру ўрада Беларусі Андрэю Кабякову. У ім выражана глыбокая трывога ў сувязі з сітуацыяй вакол фірмы "ІНКО-FOOD" і падкрэслена, што яна можа негатыўна паўплываць на перспектывы беларуска-польскага эканамічнага супрацоўніцтва.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

**ЧУЛІ?**

# Цынізм вышэйшай пробы

## Руская праваслаўная царква ўзнагародзіла чалавека, які падазраецца ў палітычных забойствах

Камандзір брыгады Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі **Зміцер Паўлічэнка,** які, як вядома, узгадваецца ў спецыяльным дакладзе Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) як чалавек, які мог мець дачыненне да палітычных забойстваў лідэраў апазіцыі, атрымаў днямі ад Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) ордэн Святога роўнаапостальскага князя Уладзіміра. Прычым, як сцвярджаюць некаторыя расійскія СМІ, мітрапаліт Філарэт, кіраўнік Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы, персанальна хадайнічаў перад Патрыярхам маскоўскім і Усяе Русі Алексіем Другім, каб ордэн далі менавіта Паўлічэнку. Удастоены высокай царкоўнай узнагароды палкоўнік Паўлічэнка, як паведамляюць у РПЦ, за "асабісты ўклад у будаўніцтва храма на тэрыторыі падначаленай палкоўніку вайсковай часці".

Нагадаем, што Зміцер Паўлічэнка фігуруе ў спецыяльнай справаздачы Хрыстаса Пургурыдэса як "падазроны арганізатар і кіраўнік крымінальнай структуры, якая мае дачыненне да выкрадання і фізічнага знішчэння людзей". Менавіта на падставе справаздачы Пургурыдэса камітэт ПАСЕ прыняў не так даўно жорсткую рэзалюцыю, патрабуючы ад беларускіх улад арганізацыі незалежнага даследавання фактаў знікнення тэлеаператара ГРТ Зміцера Завадскага, палітыкаў Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, бізнесмена Анатоля Красоўскага. Вынікам гэтай рэзалюцыі стала нядаўняя адмова грэчаскіх улад пусціць на тэрыторыю сваёй краіны міністра спорту і турызму Беларусі Юрыя Сівакова, які таксама фігуруе ў рэзалюцыі ПАСЕ. Дадамо, што вета на візіт Сівакова ў Грэцыю і ўзнагароджанне Паўлічэнкі прайшлі амаль адначасова, з інтэрвалам у некалькі дзён.

На пытанне Радыё Свабода, ці ведалі прадстаўнікі праваслаўнай царквы, перш чым узнагароджваць Зміцера Паўлічэнку, пра ўсе яго папярэднія "подзвігі", два святары РПЦ адказалі наступным чынам. **Айцец АЛЯКСАНДР** сказаў: *"Я абсалютна нічога не ведаю; ні царква, ні наш прыход не прымаюць удзелу ні ў якіх палітычных акцыях, нічога агульнага мы з гэтым не маем і не ведаем нічога".* Сакратар Мінскай епархіі **Мікалай КОРЖЫЧ** пайшоў яшчэ далей: *"Інфармацыі мы не маем, і наколькі яна праўдзівая — гэта не наша кампетэнцыя. Мы жывем сваім царкоўным жыццём, і царква знаходзіцца па-за палітыкай".*

"Ці павінны святары заставацца па-за палітыкай?" — такое пытанне я задаў ксяндзу аднаго з каталіцкіх прыходаў, які прасіў не называць яго імя. *"Каталіцкі касцёл,* — адказаў ксёндз, — *перад тым як даваць камусьці ўзнагароды, заўсёды цікавіцца маральнымі паводзінамі чалавека. Як гэта можна даваць ордэн, калі маральныя паводзіны чалавека дрэнныя? Як гэта можна даваць ордэн чалавеку, які не дае іншым людзям прыкладу хрысціянскага жыцця?"*

"Цынізмам вышэйшай пробы" назвала ўзнагароджанне праваслаўнай царквой Зміцера Паўлічэнкі жонка зніклага ў 1999 годзе Віктара Ганчара **Зінаіда ГАНЧАР**. *"Калі я атрымала інфармацыю пра гэта,* — распавядае З. Ганчар у інтэрв'ю "Народнай волі", — *я доўгі час знаходзілася ў стане шоку. Увесь свет гаворыць пра тое, што здарылася з маім мужам і іншымі зніклымі, асуджае тых, хто падазраецца ў крадзяжы людзей, а Філарэт гэтага ўсяго нібы не заўважае. Я знаёма з ім, хадзіла да яго, размаўляла з ім, ён асабіста ведае Віктара і цудоўна разумее, што з ім адбылося, і пасля гэтага робіць такое... Чуць пра тое, што праваслаўная царква па-за палітыкай, проста невыносна: яны, мусіць, не проста па-за палітыкай, яны — па-за жыццём".*

*"Нягледзячы на тое, што, згодна з Канстытуцыяй, царква ў нас аддзелена ад дзяржавы,* — каменціруе ўзнагароджанне Зміцера Паўлічэнкі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,** — *тое, што адбылося, — гэта відавочная палітычная акцыя. Напэўна, мітрапаліт Філарэт чытае прэсу, глядзіць праграмы тэлебачання, ведае пра рэакцыю міжнародных арганізацый на факты знікненняў людзей у Беларусі. У рэшце рэшт, і ў Рускай праваслаўнай царкве, і ў Беларускім экзархаце ёсць міжнародныя сектары, якія павінны інфармаваць кіраўніцтва царквы пра рэакцыю міжнароднага супольніцтва на факты крадзяжу ў Беларусі апанентаў правячай улады і ролю ў гэтай справе афіцэра Паўлічэнкі".*

Калі згадзіцца з кіраўніком АГП, то палітыкай Руская праваслаўная царква ў Беларусі ўсё ж такі займаецца. Але гэта "правільная" палітыка...

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фото из архива photo.bymedia.net**

**Обращение Михаила Маринича к демократическим силам и гражданам Беларуси**

Уже более трех месяцев я нахожусь в следственном изоляторе КГБ. Власть безуспешно пытается оказывать на меня давление, стараясь очистить политическое поле от личностей, придерживающихся альтернативных взглядов на развитие политической и экономической системы в нашей стране.

Сегодня я хотел бы обратиться к Вам в связи с парламентскими выборами, которые должны состояться в Беларуси 17 октября.

На протяжении последнего месяца ко мне поступило множество предложений от инициативных групп из разных областей страны с предложением выдвинуть меня кандидатом в депутаты. Я долго думал над этими предложениями и в итоге принял решение отказаться от участия в нынешней выборной кампании. Причин тому несколько.

Во-первых, невозможно вести полноценную избирательную кампанию, находясь в заключении.

Во-вторых, у меня не будет возможности встретиться с избирателями и выслушать их проблемы и наказы.

В-третьих, в таких условиях не хочу подвергать риску активистов, предложивших мне свою помощь, и членов команды, которые работают со мной все последние годы.

В то же время я хотел бы обратиться ко всем демократическим силам страны с призывом участвовать в этой избирательной кампании и продемонстрировать единство и сплоченность оппозиции во время парламентских выборов.

Для этого все мы должны осознать, что каждая избирательная кампания — это возможность донести до белорусских граждан слова правды и разъяснить свою позицию — позицию, ориентированную на демократические ценности, свободу слова и рыночную экономику.

Я хотел бы обратиться ко всем коалициям и блокам: "Республике", "Свободной Беларуси", "5+", "Молодой Беларуси". Объединитесь и выступите единой демократической силой, способной разрушить затхлую атмосферу лжи, страха, нищеты, бесправия, самоизоляции от Европы и мира.

Обращаясь к белорусским гражданам, я хотел бы призвать всех к отказу от участия в досрочном голосовании, в результате которого происходит большинство подтасовок результатов и махинаций со стороны власти.

Если власть, как и все последние годы, будет фальсифицировать результаты народного голосования, считаю, что каждый сознательный гражданин должен быть готов защитить результаты выборов. Помните, что эта политическая кампания не будет легкой прогулкой, а станет тяжелым испытанием для нашего единства, для нашей воли и для нашего духа.

Еще раз благодарю всех политических активистов и белорусских граждан за поддержку и оказанное мне доверие.

Объединяйтесь в действии!

**ЭКСПЕРТИЗА**

# Средние доходы — это еще не средний класс!

**Сергей ПУЛЬША**

Оказывается, в Беларуси хорошо жить. Более того, у нас, возможно, самый высокий в мире процент людей, которые причисляют себя к среднему классу.

По крайней мере, к таким выводам подвигают государственные средства массовой информации, исходя из данных опроса, который провел в июле Институт социально-политических исследований при Администрации президента.

Согласно результатам опроса (в котором приняли участие 1535 человек из всех областей страны и Минска), за прошлый год материальное положение улучшилось у 39% респондентов.

Если во втором квартале 2003 года рост жизненного уровня отметили 18,3% участников аналогичного опроса, то в этом году за тот же период — уже 26,8%. По данным исследования, 48,6% опрошенных отнесли себя к группе со средним достатком. Причем среди сельчан таковыми считают себя 45,8%, среди горожан — 49,6%.

Это и дало возможность провозгласить, что почти половина белорусов ныне — уже средний класс!

Однако так ли это на самом деле?

Экономист **Ярослав Романчук** дал "Белорусским новостям" достаточно скептический комментарий.

*"Это скорее излишне эмоциональная интерпретация результатов опроса. В публичном разговоре с незнакомым человеком вряд ли кто-то признается, что живет за чертой бедности — все будут говорить о среднем уровне дохода. Но здесь надо понимать, какой средний уровень имеется в виду, по каким критериям он определяется",* — говорит Романчук.

По его словам, есть разные критерии, чтобы оценить уровень дохода. Так, по меркам ООН, человек считается бедным, если зарабатывает в день не более одного доллара США. Всемирный банк определяет черту бедности как ежедневный заработок в два доллара, — то есть 60 долларов в месяц.

В Беларуси одним из социальных нормативов является минимальный потребительский бюджет. И, по данным Ярослава Романчука, около 70% белорусов в этот бюджет (который для большинства групп населения колеблется в районе 90—95 долларов) едва-едва вписываются. *"Так что считать половину населения Беларуси средним классом — несерьезно",* — говорит экономист.

*"В Америке,* — рассказывает Романчук, — *к среднему классу относят тех, кто, при минимальной зарплате 5 долларов в час, зарабатывает за час долларов 18. Разница больше, чем в три раза. Если брать критерий бедности по версии Всемирного банка, то белорус, претендующий на принадлежность к среднему классу, должен зарабатывать в день больше 6 долларов. То есть примерно около двухсот долларов в месяц чистыми: без налогов, социальных выплат и прочих обязательных платежей. Согласно той же официальной статистике, средняя зарплата в Беларуси — около 160 долларов. Так где же тут средний класс?".*

Короче, средний класс и средние доходы населения — совершенно разные вещи.

*"Средний класс в Европе, как правило — те, кто создает рабочие места, имеет машину, мобильный телефон и еще целый набор житейских благ. Работают они, как правило, на своей фирме, получают доходы из нескольких источников — от сдачи в аренду недвижимости, например. У нас же основные доходы населения — это даже не бизнес, а зарплаты и пенсии. О среднем классе в Беларуси даже говорить пока рано",* — убежден экономист.

### Справка по теме

**Минимальный потребительский бюджет** представляет собой расходы на приобретение набора потребительских товаров и услуг для удовлетворения основных физиологических и социально-культурных потребностей человека.

В Беларуси минимальный потребительский бюджет для члена семьи из четырех человек в ценах марта 2004 года был определен в 192 860 рублей.

*("Белорусские новости".)*

**ЗАДУМАЙТЕСЬ...**

# Пенсионный пиар

Каждый более-менее осведомленный пенсионер хорошо знает, что повышение пенсий происходит в связи с ростом заработной платы. И делается это не по чьей-то указке, а автоматически, на основании статьи 70 Закона о пенсионном обеспечении, в которой сказано, что пенсии пересматриваются, если средняя заработная плата в стране за истекший квартал увеличилась более чем на 15% (в сравнении с зарплатой, которая явилась основанием при предыдущем перерасчете пенсий). В ней также сказано, что перерасчет производится через месяц после истечения соответствующего квартала.

С 1 августа 2004 года, как известно, состоялось повышение пенсий. Об этом повышении Министерство труда и соцзащиты сообщило через средства массовой информации еще 22 июля т.г. Основанием для перерасчета пенсий явился рост заработной платы во втором квартале т.г. на 17% (в сравнении с той зарплатой, на основании которой производился перерасчет пенсий 6 месяцев назад). Были также сообщены новые размеры минимальной, средней, максимальной пенсий. Об этом 24 июля т.г. проинформировала своих читателей и "Народная воля".

Всем все было ясно. Непонятно стало, когда через неделю после официального сообщения министерства о предстоящем перерасчете пенсий поднялась пропагандистская шумиха. Президентская пресс-служба вдруг начала трубить о том, что решение повысить пенсии с 1 августа т.г. принял не кто иной как президент, давший соответствующее поручение премьер-министру 29 июля. Более того, в течение последующих дней радио и телевидение беззастенчиво зомбировали пенсионеров, убеждая их в том, что повышение пенсий в августе сделано по указанию президента якобы еще и досрочно. Да, велики способности президентских глашатаев приписывать одному человеку все, что ему выгодно, накануне возможно грядущего референдума, создавая образ единственного в стране благодетеля пенсионеров.

Почему же они умолчали о том, что "благодаря" президенту с 1 августа 2002 года пенсионерам недоплачиваются пенсии? А делается это на основании его Декрета от 25 июля 2002 года, изменившего упоминавшуюся выше статью 70 закона, в соответствии с которой для повышения пенсий достаточно было 10-процентного роста зарплаты. Декретом президента этот порог повышен до 15%. Кроме того, заработная плата, на основании которой после 1 августа 2002 года повышаются пенсии, берется уже не за последний месяц, а усредняется за весь прошедший квартал. Это же сколько денег сэкономлено на пенсионерах за истекшие два года?! Да и сделано это было как раз в то время, когда резко возросли цены, особенно на жилищно-коммунальные услуги.

**М.И.ЛАПЦЕВИЧ, пенсионерка.**

**АФІЦЫЙНА**

# Дзе будуць вучыцца студэнты ЕГУ?

Да канца жніўня будуць вырашаны пытанні, звязаныя з пераводам студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ) у іншыя ВНУ. Пра гэта заявіў журналістам першы намеснік міністра адукацыі Беларусі Аляксандр Жук.

Паводле яго слоў, працэс размеркавання студэнтаў ЕГУ ў іншыя ВНУ праходзіць планамерна. Міністэрства адукацыі накіравала лісты рэктарам дзяржаўных ВНУ, з тым каб яны аказалі дапамогу пры пераводзе студэнтаў з закрытага універсітэта.

Большасць студэнтаў, паведаміў А.Жук, пераходзіць у Беларускі дзяржаўны універсітэт, у Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі і іншыя дзяржаўныя ВНУ на адпаведныя спецыяльнасці.

"Мы далі ім магчымасць атрымаць і прадоўжыць адукацыю ў нашых прэстыжных універсітэтах, — падкрэсліў А.Жук. — Мы сустракаліся са студэнтамі ЕГУ і іх бацькамі, і ўсе пытанні, якія ўзнікаюць, вырашаюцца ў рабочым парадку".

Як і ў ЕГУ, студэнты будуць вучыцца на платных аддзяленнях. На думку Аляксандра Жука, па асобных спецыяльнасцях вучэбныя планы ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце "не зусім" адпавядалі адукацыйным стандартам. Таму пры неабходнасці студэнты змогуць на працягу навучальнага года здаць дадатковыя экзамены. Студэнты, якія паступілі на першы курс ЕГУ, як і іншыя студэнты, залічваюцца на першы курс у дзяржаўныя ВНУ на адпаведныя спецыяльнасці без паўторнай здачы ўступных экзаменаў.

Нагадаем, што 27 ліпеня міністр адукацыі Беларусі Аляксандр Радзькоў падпісаў загад № 838 аб ануляванні ліцэнзіі на адукацыйную дзейнасць, выдадзенай Еўрапейскаму гуманітарнаму універсітэту. ЕГУ дзейнічаў з 1992 года. Ва універсітэце вучылася каля тысячы студэнтаў, каля 100 магістрантаў і 50 аспірантаў.

**Вольга АСІПЕНКА.**
**Фото photo.bymedia.net**

ПУЛЬС

## Транспарт хадзіць не будзе...

У 8 гадзін 14 жніўня да 23 гадзін 15 жніўня ў сувязі з правядзеннем капітальнага рамонту ўчастка мінскай вуліцы Інтэрнацыянальная (ад вуліцы Леніна да Камсамольскай) будзе перакрыты рух усіх відаў транспарту.

Як паведамляе упраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, у сувязі з гэтым рух тралейбусаў маршрутаў 21 і 39 будзе арганізаваны да прыпынку "Гарадскі Вал" са следаваннем па вуліцах Ціміразева, Раманаўская Слабада, Гарадскі Вал у прамым і зваротным напрамках, а рух тралейбусаў па маршруце № 56 адмяняецца. Для кампенсацыі знятага тралейбуснага руху арганізуецца часовы аўтобусны маршрут № 144 "Вяснянка — праспект Ф.Скарыны" са следаваннем па вуліцы Нарачанскай, праспекце Машэрава, вуліцах Інтэрнацыянальнай, Энгельса, праспекце Ф.Скарыны ў прамым напрамку і па праспекце Ф.Скарыны, вуліцы Леніна, праспекце Машэрава, вуліцы Нарачанскай — у зваротным.

Як раней паведамляў БелаПАН, рух усіх відаў транспарту, апрача тралейбусаў, на вышэйназваным участку закрыты з 9 жніўня да 30 верасня.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Наваселле нямецкай консульскай службы — у кастрычніку

Адкрыццё новага будынка консульска-прававога аддзела Пасольства ФРГ запланавана на пачатак кастрычніка. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў пасол Германіі ў Беларусі **Марцін Хекер.**

Паводле яго слоў, плануецца прымеркаваць адкрыццё будынка на тэрыторыі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра *(праспект газеты "Праўда", 11)* да нацыянальнага свята Германіі — Дня нямецкага адзінства. Гэтае свята адзначаецца штогод 3 кастрычніка, у гадавіну аб'яднання ФРГ і ГДР, якое адбылося ў 1990 годзе.

Па ацэнках нямецкага боку, пераезд консульскай службы з вуліцы Будзённага на праспект газеты "Праўда" дазволіць давесці колькасць віз, што выдаюцца штогод грамадзянам Беларусі Пасольствам ФРГ у Мінску, да 140 тысяч. У 2003 годзе было выдадзена каля 120 тысяч віз.

**Юрый ШЫРОКІ.**

## Над Віцебскам — «крылатыя легенды»

Англійскія "спітфайры", амерыканскія "аэракобры", нямецкія "хейнкелі" і "месершміты". Сёння ўбачыць гэтыя баявыя паветраныя машыны можна, бадай, толькі ў спецыяльных выданнях, на малюнках і фотаздымках.

Унікальную магчымасць увачавідкі пазнаёміцца з самалётамі 40-х гадоў мінулага стагоддзя атрымалі днямі жыхары Віцебска, аэрапорт якога прымаў пілотаў-калекцыянераў з еўрапейскіх краін на ўласных машынах часоў Другой сусветнай вайны. Аматары гістарычнай паветранай тэхнікі прыляцелі ў горад на Заходняй Дзвіне, каб дазаправіць свае лятальныя апараты і зрабіць ім тэхнічны агляд на шляху ў Маскву для ўдзелу ў авіяшоу пад назвай "Лятаючыя легенды" на падмаскоўным ваенным аэрадроме "Моніна".

У Віцебску прызямліліся дзесяць рарытэтных самалётаў, якімі кіравалі пілоты-калекцыянеры з Германіі, Бельгіі, Аўстрыі і Югаславіі. З Віцебска ў сталіцу Расіі нябесная кавалькада накіравалася следам за расійскім штурманам на верталёце "Мі-8", які спецыяльна прыбыў з Масквы для суправаджэння гістарычнай эскадрыллі.

Зваротны шлях "музейных" машын таксама пройдзе праз Віцебскі аэрапорт. І тады, магчыма, паглядзець на пілатаванне старой паветранай тэхнікі змогуць многія жыхары Віцебска, бо мясцовыя прадстаўнікі прадпрыемства "Белаэранавігацыя" плануюць дамовіцца з гасцямі аб правядзенні ў прамежкавым пункце маршруту гістарычнай эскадрыллі паўтарэння падмаскоўнага авіяшоу самалётаў, якія ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Пратэст «чаўнакоў» Брэста

Брэсцкія "чаўнакі" правялі мітынг пратэсту на пагранпераходзе "Варшаўскі мост".

Цягам трох гадзін, з 7 да 10 раніцы, больш за 50 вадзіцеляў выказвалі свае прэтэнзіі наконт абавязковай куплі беларускай страхавой "зялёнай карты". Калі раней яны маглі карыстацца на выбар або польскай, або беларускай "зялёнай картай", то з 1 жніўня памежнікі і мытнікі патрабуюць толькі айчынны варыянт страхавой карты, якая больш як у два разы даражэйшая за польскую.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Мяжа ад пакарання не схавала

Днямі ў Оршы міліцыянеры арыштавалі зусім звычайнага, міралюбівага і нават сімпатычнага з выгляду маладога чалавека, пра якога суседзі не маглі сказаць нічога дрэннага. Між тым аператыўнікі прыбылі на затрыманне са зброяй, бо ведалі, што гэты быццам бы бясшкодны хлопец чатыры гады таму разам з чатырма жыхарамі падмаскоўнага горада Чэхава зрабіў разбойны напад на кватэру тамтэйшага пенсіянера. Пяцёра налётчыкаў, сярод якіх была 17-гадовая дзяўчына, моцна збілі старога, забралі ў яго грошы і каштоўныя рэчы, а самога задушылі электрычным провадам.

Згодна з міжнародным пагадненнем аб супрацоўніцтве праваахоўных органаў, крымінальная справа на беларускага бандыта-гастралёра была перададзена з Маскоўскай вобласці ў Оршу, а тутэйшая пракуратура дала санкцыю на арышт злачынцы і прад'явіла яму абвінавачанне ў забойстве, пакаранне за якое, няхай і з 4-гадовай адтэрміноўкай, малапрыкметны жыхар Оршы будзе адбываць на радзіме.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

*Алесь БЯЛЯЦКІ:*

## «Вынікі выбараў будуць сфальсіфікаваныя...»

Парламенцкія выбары пройдуць *"па ранейшых сцэнарыях правядзення прэзідэнцкіх выбараў 2001 года і выбараў у мясцовыя саветы 2003 года, калі адбыліся масавыя парушэнні выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыі",* мяркуе кіраўнік незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" **Алесь Бяляцкі.** Такія высновы праваабаронца робіць на падставе аналізу вынікаў фарміравання акруговых выбарчых камісій.

Паводле звестак "Вясны", з 318 членаў дэмакратычных партый у склад выбарчых камісій уключаны толькі 30 чалавек, што складае 9,4 працэнта. Прадстаўнікі дэмакратычных партый складаюць усяго 2,1 працэнта ад агульнага складу членаў усіх 110 акруговых камісій (1430 чалавек).

А.Бяляцкі нагадаў, што з 1999 года ніводныя вынікі выбараў у Беларусі не былі прызнаны міжнароднай супольнасцю. Аднак нягледзячы на канкрэтныя рэкамендацыі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, што датычаць фарміравання выбарчых камісій, а таксама шматлікія прапановы з боку беларускіх палітычных партый і няўрадавых арганізацый, скіраваныя на паляпшэнне выбарчага працэсу, беларускія ўлады *"выбралі тупіковы варыянт выбарчых фальсіфікацый і махлярства, псеўдазаконныя метады недапушчэння сваіх палітычных апанентаў да выбарчага працэсу і рэзкага абмежавання іх грамадзянскіх правоў".*

У сувязі з гэтым Алесь Бяляцкі перакананы, што "вынікі выбараў будуць сфальсіфікаваныя, і беларускае грамадства чарговы раз будзе падманута".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

# І вухам не вядуць

## улады на патрабаванні апазіцыі зрабіць выбары ў парламент дэмакратычнымі

Як вядома, судовым рашэннем скасавана рэгістрацыя праваабарончага цэнтра "Вясна". Але яго сябры дзейнічаюць на грамадскіх пачатках. У гэтыя дні пад іх пільнай увагай знаходзяцца пытанні, звязаныя з выбарчай кампаніяй.

Зроблены аналіз і папярэднія высновы першага этапа выбараў. Адзначаецца, што, згодна з пастановай Цэнтральнай камісіі ад 20 мая 2004 года № 4, сярэдняя колькасць выбаршчыкаў акругі ўстаноўлена ў межах 64.585 чалавек. Пры гэтым колькасць выбаршчыкаў акругі не павінна перавышаць 10% ад сярэдняй колькасці выбаршчыкаў акруг. Між тым на некаторых сфарміраваных выбарчых акругах адхіленне ад сярэдняй колькасці выбаршчыкаў перавышае 10% у бок змяншэння.

Ні Выбарчы кодэкс, ні пастановы Цэнтральнай камісіі не ўтрымліваюць крытэрыяў адбору прадстаўнікоў у склад камісій. Выбарчы кодэкс не абавязвае органы, якія фарміруюць камісіі, выклікаць на свае пасяджэнні асоб, якія падалі заявы аб уваходжанні ў склад акруговых камісій, даваць ім пісьмовы адказ, праводзіць сумоўе з прэтэндэнтамі і г.д.

Запыт дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу У.Навасяда да Цэнтральнай камісіі з просьбай даць афіцыйнае тлумачэнне крытэрыяў, якімі павінны кіравацца органы пры фарміраванні камісій, застаўся без адказу па прычыне *"недахопу паўнамоцтваў Цэнтральнай камісіі па пашыраным тлумачэнні норм выбарчага заканадаўства".*

Між тым падчас адной з прэс-канферэнцый старшыня Цэнтральнай камісіі Лідзія Ярмошына выказала свае крытэрыі да прынцыпу фарміравання акруговых камісій, зазначыўшы, у прыватнасці, што яна не прыхільніца ўключэння ў склад акруговых камісій у парадку чаргі. Па словах Л.Ярмошынай, у камісіі трэба ўключаць людзей з юрыдычнай адукацыяй, якія маюць досвед працы ў выбарчых камісіях. Нягледзячы на тое, што фармальна Цэнтральная камісія не мае адносін да працэсу фарміравання камісій, гэтыя словы маглі служыць пэўным крытэрыем пры адборы кандыдатаў у камісіі.

Палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі актыўна вылучалі сваіх прадстаўнікоў у склад акруговых камісій. Усяго колькасць кандыдатаў, вылучаных ад дэмакратычных партый у склад акруговых камісій, склала 318 чалавек. Але ў камісіі было ўключана толькі 20 чалавек.

**Агульная колькасць прадстаўнікоў дэмакратычных апазіцыйных партый ад агульнай колькасці сябраў камісій склала ўсяго 2%.** Разам з прадстаўнікамі праўрадавых партый агульная лічба прадстаўнікоў палітычных партый у камісіях склала крыху болей за 7%.

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый складаюць 20% ад агульнай колькасці сябраў акруговых камісій. Пераважная колькасць з іх — гэта прадстаўнікі праўрадавых грамадскіх арганізацый (БРСМ, ФПБ, Саюз ветэранаў Афганістана і інш.). БРСМ мае ўключаныя ў камісіі 94 асобы на 110 выбарчых акругаў, ФПБ — 80, Саюз ветэранаў — 66, Беларускі саюз жанчын — 28. Між тым прадстаўнікоў такіх буйных рэспубліканскіх няўрадавых арганізацый, як ГА БНФ "Адраджэньне", Беларускі Хельсінкскі камітэт, у склад камісій пераважна не ўключылі.

**Такім чынам, робяць высновы сябры забароненага цэнтра "Вясна", улады ўжо на этапе фарміравання акруговых камісій ствараюць умовы для поўнага кантролю за выбарчым працэсам з боку выканаўчых улад, што дае падставы меркаваць аб магчымых фальсіфікацыях і маніпуляванні.**

*АГУЛЬНЫ МАЛЮНАК ТАКІ:*

*1. Улады Беларусі напярэдадні выбараў змянілі прававое рэгуляванне парадку дзейнасці і рэгістрацыі палітычных партый, чым істотна абмежавалі магчымасці палітычных партый падчас правядзення выбараў.*

*2. Улады Беларусі не прынялі мер да дэмакратызацыі выбарчага заканадаўства краіны ў мэтах правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у адпаведнасці з прынцыпамі адкрытасці, галоснасці і празрыстасці.*

*3. Улады Беларусі не ўлічылі рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ, якія былі выпрацаваны пасля правядзення выбараў 2000 і 2001 гадоў.*

*4. Масавае няўключэнне ў склад акруговых выбарчых камісій прадстаўнікоў дэмакратычных партый Беларусі дазваляе заяўляць аб тым, што выбарчы працэс будзе праходзіць пад поўным кантролем выканаўчых улад.*

*5. Масавая прапаганда, якая была распачата дзяржаўнымі СМІ напярэдадні выбараў супраць апазіцыйных партый і асобных грамадзян, якія будуць вылучацца ў якасці кандыдатаў у дэпутаты, сведчыць аб заведама няроўных умовах кандыдатаў пры правядзенні будучай агітацыйнай кампаніі.*

*6. Зацверджаныя Цэнтральнай камісіяй мэтадычныя рэкамендацыі для працы ўчастковых камісій істотна абмяжоўваюць правы выбаршчыкаў, ствараюць шырокія магчымасці для фальсіфікацый вынікаў галасавання.*

**Сяргей БАРСУКОЎ.**

ТОЛЬКО У НАС

# В Круглом сняли памятник Ленину

***На время. Гранитную фигуру вождя мирового пролетариата обещают вернуть на место в ближайшее время***

Городские власти Круглого, что в Могилевской области, наводят в поселке порядок. Еще весной начали реконструкцию главной площади города.

Центральное место на ней, согласно советским архитектурным канонам, занимал памятник Ленину. Постамент был вмонтирован в трибуну, с которой в советские времена местные вожди приветствовали воодушевленные праздниками народные массы.

Сегодня необходимость в трибуне отпала. То ли вождей нет, то ли праздников, то ли массы не те. Но гранитный предводитель мирового пролетариата намертво впаялся в трибуну: сняли ее — и вместе с ней пришлось убирать постамент.

Но в наши дни, когда белорусские власти любыми способами пытаются возродить у граждан отживший советский патриотизм, когда даже в столице станции метро "Площадь Независимости" возвращают ее прежнее название — "Площадь Ленина", круглянская вертикаль, видимо, не решилась отправить памятник Ленину на свалку. Местная власть издала распоряжение *"демонтировать памятник В.И.Ленину для дальнейшей его реставрации и последующей установки на прежнее место".*

Гранитного Ленина упаковали в специальный дощатый ящик и отправили на хранение в отдел культуры райисполкома.

*— Как таковой реставрации не будет,* — рассказала по телефону сотрудница отдела. *— Памятник хорошо сохранился, только слегка покрылся зеленым налетом. Его достаточно почистить, а на это денег не надо. Еще неизвестно, будет ли монумент установлен на площади. После реставрации она выглядит очень красиво, современно. Отреставрирован Дом Советов, гостиница, почта, уложена бессеровская плитка, новый асфальт, посажены цветы. Может, Ленину найдут другое место.*



*Неприкасаемый...*

Фото photo.bymedia.net

К слову, на том месте, где когда-то возвышался памятник первому руководителю Страны Советов, разбили клумбу. Так что при желании заменить цветы на гранит будет несложно.

Местное население на подобные перемены в городе отреагировало вяло. Никто не высказал ни одобрения, ни возмущения. Только в местную редакцию газеты "Сельскае жыццё" обратилась группа ветеранов с просьбой оставить памятник Ленину в городе. Если не на центральной площади, то хотя бы на одной из улиц Круглого. Предложили разместить его на Алее героев, рядом с бюстами героев Советского Союза — уроженцев Круглянского района. Какой из вариантов выберут местные власти, покажет время. Но вряд ли чиновники осмелятся оставить город без советской атрибутики...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

КЛИНИКА

РСФСР

ТЫ

намолотил 60 центнеров с ГЕКТАРА?!?

# «Пусть они лучше соревнуются с беременными женщинами...»

Степень маразма государственной пропагандистской машины приблизилась к своему апогею. Юморная по своей сути идея Лукашенко, которую он высказал на последнем селекторном совещании, организовать соревнование между отважными участниками уборочной страды и белорусскими олимпийцами, нашла-таки отклик в нашем многострадальном народе. Вот какое сообщение передало на днях государственное информационное агентство БелТА:

**"Комбайнеры колхоза "Советская Белоруссия" Речицкого района бросили вызов белорусской олимпийской сборной в Афинах**

*Экипаж комбайна "Дон-1500" в составе братьев Николая и Ивана Гериловичей, неоднократных победителей республиканского соревнования по уборке зерновых, первым в Гомельской области намолотил 1000 тонн зерна урожая 2004 года. Об этом говорится в телеграмме председателя правления колхоза СПК* ***"Советская Белоруссия"*** *Речицкого района Гомельщины, поступившей в адрес президента Беларуси Александра Лукашенко.*

*Председатель отметил, что экипаж посвящает свою трудовую победу 60-летию освобождения нашей страны от немецко-фашистских захватчиков. Он тепло поблагодарил главу государства за заботу, большое внимание и постоянную поддержку сельских жителей.*

*"Вызываем на соревнование олимпийскую сборную Беларуси в Афинах!* — говорится в телеграмме".

Ответа на вопрос, каким конкретно образом колхозники могут соревноваться со спортсменами, я не нашел. Поэтому решил обратиться к специалистам. Фермер с многолетним стажем со Смолевичского района **Дмитрий КОЗЫРЬ** только развел руками, потом раза три произнес, что у него нет слов, и в завершение добавил: *"Это даже уже не пропаганда, это просто смех. Лучше бы эти комбайнеры вызвали на соцсоревнование беременных женщин. Что комбайнерам со спортсменами соревноваться, что с беременными женщинами — результат один".*

Трехкратный олимпийский чемпион, депутат Палаты представителей **Владимир ПАРФЕНОВИЧ** ответил так: *"Кесарю — кесарево, слесарю — слесарево. Комбайнеры могут соревноваться с такими же комбайнерами, как они сами. Пусть соревнуются со своими коллегами из других стран — США, Германии, Польши, России. Одно дело — молотить, а другое — завоевывать медали. Если комбайнеры Беларуси по намолоту и урожайности выиграют у комбайнеров Германии — отлично, а как они могут выиграть у спортсменов?... Чушь какая-то. Может, комбайнеры из "Советской Белоруссии" намекают на то, что по возвращении с Олимпиады спортсмены станут комбайнерами? А может и пора им комбайнерами стать?"*

Может, и пора, Владимир Владимирович! Боюсь, как бы всем нам не оказаться через какое-то время в комбайнерах.

**Александр СИЛИЧ.**
**Коллаж автора.**

## Модернизировали или добили?

*"Мы не бросились в омут каких-то непонятных реформ, мы знали, что блага могут быть достигнуты, образно говоря, исключительно потом и кровью. Ну, крови не было, хотя пота пролили очень много. Но мы выдержали, мы подняли наши предприятия, мы их спокойно модернизировали, не стали менять собственника, пока не подняли эти предприятия. А сегодня те предприятия, которые встали с колен, не хотят нового собственника. Вот это результат сегодня спокойной, целенаправленной работы. И никакого здесь чуда нет".*

**Из выступления Александра Лукашенко перед журналистами на пресс-конференции 20 июля 2004 г.**

По данным государственной статистики, износ активной части промышленных предприятий, то есть станков, машин составляет 80 процентов. Значит, основная масса оборудования изношена. Так модернизировали предприятия или добили их еще больше?

**Евгений ТАВГЕНЬ.**

ЖЫЦЦЁ, ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Глухі куток

*Жыхары Віцебска, якія нядаўна займелі дачныя ўчасткі побач з чыгуначнай прыгараднай станцыяй "Княжыца", адразу ж сутыкнуліся з сур'ёзнай праблемай: ні ў самой вёсцы, ні на станцыі няма тэлефона-аўтамата, не кажучы ўжо аб нейкім пункце міжгародняй сувязі. На мабільныя тэлефоны ў дачнікаў, як і ў мясцовых жыхароў, няма грошай, і нават у выпадку вострай неабходнасці з Княжыцы немагчыма патэлефанаваць у міліцыю, выклікаць урача, паведаміць пра свае надзённыя справы і клопаты гарадскім сваякам.*

Праўда, дзякуючы спагадлівасці загадчыцы мясцовага паштовага аддзялення Святланы Бескаравайнай, некаторым дачнікам пашчасціла звязацца па тэлефоне з віцебскімі абанентамі па неадкладных справах, але гэта было выключэннем з правіла. Больш таго: добразычлівая Святлана Іванаўна паведаміла гаспадарам лецішчаў, што яе паштовае аддзяленне ўжо сёлетняй восенню плануецца закрыць, бо яно стратнае. І вось тады жыхары і госці Княжыцы адчуюць сябе, як на "Малой Зямлі" ў час варожага акружэння.

Княжыца — не адзіны на Віцебшчыне "мядзведжы вугал", пазбаўлены тэлефоннай сувязі. Ды і наогул укараненне ўстаноўленага ўрадам мінімуму сацыяльных стандартаў ажыццяўляецца ў вобласці марудна. Ад іх недахопу асабліва церпіць жыллёва-камунальная сфера, паслугі якой пастаянна даражэюць пры хуткім зніжэнні іх якасці. Адстае ад патрабаванняў часу медыцына: у некаторых раённых бальніцах няма не толькі гарачай, але нават халоднай вады. Нізкімі тэмпамі развіваецца газіфікацыя жылля, дрэнная якасць пітной вады нават у абласным цэнтры, не гаворачы ўжо аб меншых гарадах, надоўга застаюцца без гарачага водазабеспячэння жыхары шматпавярховых мікрараёнаў, не выконваецца нарматыў забяспечанасці насельніцтва аўтобуснымі зносінамі і лазнямі, у многіх населеных пунктах забыліся, што такое служба бытавога абслугоўвання, у сельскай мясцовасці і нават у гарадскіх пасёлках і гарадах не хапае ўрачоў, адна за адной закрываюцца сельскія бальніцы.

На нядаўняй сесіі абласнога Савета дэпутатаў пра "глухую" Княжыцу не ўспаміналі, але адзначалася, што на Віцебшчыне цяпер не тэлефанізаваны 839 маланаселеных пунктаў. А гэта азначае, што тысячы людзей адчуваюць сябе бездапаможнымі перад раптоўнымі хваробамі, злачынцамі і нават пажарам.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

КАМПЕТЭНТНА

*Валерый ДАШКЕВІЧ:*

# «Зрабіць мабільны тэлефон не праблема, але на які рынак пры гэтым разлічваць?»

*Незалежныя эксперты лічаць немэтазгодным арганізацыю вытворчасці беларускіх мабільных тэлефонаў.*

Нагадаем, што 11 жніўня на нарадзе па пытанні развіцця рынку мабільнай сувязі ў краіне прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што сотавыя тэлефоны і перадатчыкі *"могуць і павінны рабіцца ў Беларусі".* Для гэтых мэт Лукашэнка прапанаваў падключыць айчынны вытворчы патэнцыяал.

*"Чаму мы, інтэлектуальная, высокаадукаваная нацыя, не можам самі зрабіць гэта ўсё ў сябе? Трэба толькі перапрафіляваць і прывязаць нашы канкрэтныя прадпрыемствы да патрэбнасцяў галіны",* — сказаў ён.

Каменціруючы па просьбе БелаПАН выказванні кіраўніка дзяржавы, вядомы эканамічны аналітык **Валерый Дашкевіч** зазначыў: *"Калі ўлады гавораць аб тым, што мы павінны самі ўсё вырабляць, мяне гэта крыху палохае, паколькі ў адзін цудоўны момант можа з'явіцца ўказанне рабіць у Беларусі самалёты, і на гэтых самалётах потым давядзецца лятаць. "Зрабіць мабільны тэлефон не праблема, але на які рынак пры гэтым разлічваць? Калі на беларускі, то дзеля выпуску 500 тысяч мабільных тэлефонаў у год не варта распачынаць вытворчасць. Тэлефоны ў гэтым выпадку будуць занадта дарагія, а такая вытворчасць — нерацыянальнай".*

Яшчэ адзін эксперт, кіраўнік навукова-даследчага цэнтра Мізеса **Яраслаў Раманчук**, мяркуе, што ў Беларусі няма *"ні тэхнічнай, ні навуковай базы для таго, каб вырабіць канкурэнтаздольны мабільны тэлефон". "Гэты рынак настолькі ўкамплектаваны, што новаму вытворцу туды ўвайсці практычна немагчыма",* — сказаў ён у інтэрв'ю БелаПАН.

Паводле яго слоў, калі ў Беларусі ўсё ж з'явіцца свой тэлефон, то ён будзе складацца, у асноўным, з імпартных камплектуючых. Для распрацоўкі унікальнай мадэлі, лічыць Раманчук, неабходна мець больш інтэнсіўную і капіталаёмістую вытворчасць, а *"ў Беларусі пакуль няма такіх грошай і такіх спецыялістаў".*

Як і В.Дашкевіч, Я.Раманчук упэўнены ў тым, што стварэнне беларускага мабільнага тэлефона прывядзе да таго, што апараты стануць больш дарагімі, а сувязь — менш якаснай. Апрача таго, з мэтай абароны ад імпартных аналагаў будуць узняты мытныя пошліны і рэалізаваны *"ўвесь нярынкавы пакет мерапрыемстваў па імпартазамяшчэнні, якія ўжо неаднаразова прымяняўся".*

**Лавінія АРЭШКА.**



